Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



## ПАМЯЦІ АХВЯР ГЕНАЦЫДУ ў БЕЛАРУСІ.

Сяньня апошні дзень **«Тыдня памяці ахвяр генацыду».** Слова генацыд абазначае - фізычнае зьнішчаньне расы, народу, ці этнасу.

На працягу гісторыі беларускі народ шмат цярпеў ад масавых вынішчэньняў, ды найбольш жорсткім быў генацыд дакананы над ім камуністычным рэжымам.

Толькі ў часе Сталінскага тэрору 1930-х гадоў было зьнішчана **два мілёны 200 тысяч беларусаў.** Толькі-ж загінула й у часе Другой Сусьветнайа вайны - **2 мільёны, 200 тысяч людзей.**

Агульны дэмаграфічны дэфіцыт (улічваючы ненароджаных) толькі за 20 год - за гады ад 1939 - да 1959, як аблічана навукоўцам доктарам мэдыцыны Вітаўтам Тумашам, выносіць панад **шэсьць мільёнаў.**

Каб зьнішчыць этнас - народ, вораг вынішчае яго фічычна, тэрорам забірае ад яго ягоную мову-душу народу, нішчыць нацыянальную культуру, і гістарычную памяць, зьнішчае яго гісторыю.

**Бо, для народу каб мець будучыню, трэба яму ведаць сваю прошласьць - сваю гісторыю.**

У Саветах паняцьце генацыду адносілася толькі да нямецкага фашызму ў часе Другой Сусьветнай вайны. Камуністычны рэжым быў паза падазрэньнем у генацыдзе. Толькі ў канцы 1980 гадоў некаторыя гісторылі й журналісты сталі пісаць пра масавае зьнішчаньне насельніцтва Беларусі, асабліва за часоў Сталінскага рэжыму.

Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі, том 2, Менск, 1994 ,( на бач. 505) падае: «Вялікі Тэрор 1930 гадоў у Савецкай Беларусі меў катастрафальна-зьнішчальныя наступствы для нацыянальнае культуры Беларусі. У часе трох хваляў араыштаў 1930, 1933, і 1937-1938 гадоў былі зьнішчаны сотні тысячаў людзей. Асабліва цяжкія страты пацярпела беларуская інтэлігэнцыя. Генацыдная кампанія праводзілася пад клічам змаганьня супраць «Нацыянал Дэмакратаў» - «Нацдэмаў», якіх абвінавачвалася ў тым, што яны хочуць прадаць Савецкі Саюз капіталістычным імпэрыялістам. Аб маштабах шкоды спрычыненай генацыдам можана судзіць па стратах, якія пацярпела беларускаю літаратуру. У 1937 годзе, пасьля арышту **128** пісьменьнікаў засталася толькі адна літаратурная арганізацыя - «Саюз Пісьменьнікаў Беларусі», у

54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

якім з 39 яго сяброў толькі 14 пісалі пабеларуску. А з усіх **238 беларускіх** пісьменьнікаў арыштаваных у часе рэпрэсіяў 1930 гадоў толькі 20 выжыла, і былі пасьля сьмерці Сталіна звольнены з канцэнтрацыйнух лягероў.. ІНБЕЛКУЛЬТ - Інстытут Беларыускай Культуры, заснаваны ў 1922 годзе й ператвораны ў Беларускую Акадэмію Навук у 1928, страціў 90% сваіх сяброў, пераважная большасьць зь іх былі расстраляныя.

Гісторык Міхась Біч, які дасьледаваў наступствы Сталінскіх генацыдных злачынстваў у Беларусі, кажа: «У 1930-х гадох, амаль уся нацыянальная інтэлігэнцыя, якая ў свай большасьці была эдукаваная ў Савецкія часы, сталася ахвярай Сталін-Бэрыя рэпрэсіяў» (Цытата з «Настаўніцкай Газеты» Мінск,1989). Палітыка масавага зьнішчаньне беларускай інтэлігэнцыі была пашырана й на Заходнюю Беларусь, пасьля інкарпарацыі яе ў 1939 годзе ў Савецкі Саюз. У 1940 годзе ў Заходняй Беларусі было арыштыавана й саслана ў канцэнтрацыйныя лягеры Салоўкасў, Варкуты болей за 200,000 чалавек.

Толькі ў апошніх гадох ведамымі сталі жахлівыя разьмеры генацыду камуністычнага тэрору ў Беларусі. Да лісты назоваў **Бухэнвальд, Аўшвіц,** ў 1988 годзе дайшоў яшчэ адзін: **Курапаты,** лес каля Менску, дзе з 1937 па 1941 год з ночы ў ноч адбываліся ртасстрэлы нявінных ахвяр бельшавіцкага генацыду. Гэтае мейсца масавых расстрэлаў раскрыў архэалягічнымі раскопкамі ў 1988 годзе Зянон Пазьняк із сваімі супрацоўнікамі. У ліпені 1988 году апублікаваў ён у «Літаратуры і Мастацтве» артрыкул: «Курапатры - Дарога сьмерці». У сваім уступе да публікацыі Васіль Быкаў кажа: **«У нас ёсьць нямала велічных помнікаў ахвярам нямецкага фашызму.... Але нішто яшчэ у нас не напамінае пакаленьням аб ахвярах Сталіншчыны. Тое няправільна й недаравальна!** Мы павінны памятаць аб іх - не героях, а бязьвінных ахвярах тырана - спрацаваных рабочых, галодных калгасьніках... народных інтэлігэнтах, мужчынах і жанчынах, - якія з куляю ў патыліцы клаліся ў самымі-ж выкапаныя ямы, вымаўляючы не праклён, не пратэст, а адзінае марнае й трагічнае слова «Завошта?»

Яны ўжо ніколі не пачуюць адказ на сваё пытаньне, затое адказ на яго **павінны** зразумець **мы.**

Менавіта гэтай мэце і служыць зьмешчаная ніжэлй публікацыя двух аўтараў, зьдзейсьніўшых свой людзкі абавязак перад народам і перад гісторыяй» Гэтак ацаніў значэньне публікацыі «Курапаты - Дарога сьмерці» Васіль Быкаў, Народны пісьменьнік Беларусі.

Паводле савецкіх калькуляцыяў лік расстраляных у Курапатах даходзіць да 102,000. Але галоўны дасьледчык пасьля апублікаваў, што

лік забітых у Курапатах даходзіць да 250, 000.

На мэмарыяльным сходзе памяці ахвяр генацыду, што абыўся ў Менску, гісторык Сачанка ў сваім выступленьні гаврыў, што паводле ягоных падлікаў, а таксяама і іншых дасьледчыкаў, лік ахвяраў Сталіншчтны раўняецца ліку тых, што загінулі ў часе Айчыннай Вайны. («Зьвязда», Мінск,19 сакавіка,1989 ), калі загінула два мільёны дзвесьце тысяч людзей. Так падае Акадэмія навук БССР, Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя, том 1, Міенск, 1969, бач. 217.Лікі гэтыя гавораць аб засягу трагэдыі Беларусі.

Другім аспэктам камуністычнага генацыду ў Беларусі ёсьць русыфікацыя. У 1933 годзе ў БССР была абвешчана Рэформа беларусклай мавы, якая зьбліжала беларускі правапіс і бвеларускае слоўніцтав - лексіку да расейскай. Рэформа гвалтавала натуральныя характарыстыкі й спэцыфіку беларускай мовы. Беларуская мова была выціснутая з урадавага ўжытку й школьніцтва. Гаварыць пабеларуску на фармальных сходах бытло знакам «буржуазнага нацыяналізму», які прасьледавалася.

Гісторыя Беларусі была перапісана нанава паводле імпэрска-савецкай гістрыяграфіі. Нацыянакльныя дзеячы беларускай культуры, як Франьцішак Скарына, ды Кастусь каліноўскі, кіраўнік паўстаньня 1963 году ў Беларусі супраць царызму, былі выкінутыя зь гісторыі як рэакцыянеры, і прысуджаныя на забыцьцё. .

Затое расейскія цары, генералы, пісьменьнікі сталіся прадметам студыяў і маделем насьледаваньня для беларускае моладзі. Гісторыя Беларусі была зьведзена да адзінага жаданьня беларускага народу зьяднацца з Расеяй. Культурнае жыцьцё ў Беларусі было ськіваванае на так званы інтэрнацыяналізм з акцэнтаваньнем усяго расейскага.

Шкодныя наступствы генацыднай і этнацыднай палітыкі расейска-савецкага рэжыму былі прызнаны ў часе перастройкі самімі камуністамі. Ворган Камуністычнай Партыі Беларусі «Камуніст Беларусі» у 1990 годзе пісаў: «Змаганьне з так званымі «нацдэмамі» і кулакамі 1929-1933 гадоў, перайшло ў 1937 у ліквідацыю шпіёнаў. У рэзультаце працэс тварэньня нацыянальнае інтэлігэнцыі быў затрыманы на доўгі час».

Хачу яшчу вярнуцца да гісторыі Беларусі, якая была зьнішчана расейска-камуністычным рэжымам з мэтахэй дэнацыяналізацыі беларускага народу. У пачатку 20-х гадоў XX стагодзьдзя, у пэрыяд беларусізацыі, калі палітыка камуністычных улад у БССР была яшчэ адносна лібэральнай і ў адносінах нацыянальных, беларускія гісторыкі пачалі распрацоўваць нацыяналную гістарыяграфічную канцэпцыю.

Аднак ужо ў пачатку 30-х гадоў пачынаюцца рэпрэсыі супраць

нацыянальнух дзеячоў, у тым ліку вядомых беларускіх гісторыкаў, прадстаўнікоў нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі. Іх працы былі выключаны з навуковага ўжытку. Імёны рэпрэсыяваных гісторыкаў было забаронена згадвац у навуковых працах. Толькі ў дыскусіях дазвалялася жорстка крытыкаваць, абвінавачваючы іх ва ўсякіх грахох і прыпісваючы ім усе палітычныя абвінавачваньні.

У 30-х гадох у Беларускай ССР былі рэпрэсыяваныя й зьнішчаныя гісторыкі: **Вацлаў Ластоўскі, Усевсалад Ігнатоўскі, М. В. Доўнар-Запольскі, У.І. Пічэта, П.В.Горын, С.Ю.Матуляйціс, К. І. Кернажыцкі, А. М. Ляўданскі, і іншыя.** У выніку амаль **поўнай ліквідацыі навукоўцаў-гісторыкаў** у канцы 30-х гадоў у гістарычнай навуцы Савецкай Беларусі манапольнае становішча заняла марксісцка-ленінская мэтадалёгія, спалучаная з мадэрнізаванай расейскай вялікадзяржаўнай канцэпцыяй. Такі мэтадалягічны сынтэз адпавядаў ідэялягічным мэтадам камуністычнай партыі **ліквідацыі нацыянальных адрозьненьняў беларускага этнасу і паглынаньня яго расейскім народам.** Спробы адзінкавых гісторыкаў аб'ектыўнай навуковай ацэнкі падзеяў і дзеячоў нацыянальнай гісторыі заканчваліся палітычнымі абвінавачваньнямі і рэпрэсіямі.

Камандна-адміністрацыйная сыстэма ў Беларусі зь яе таталітарнай ідэялёгіяй стварыла адпаведную сыстэму гістарычных кадраў, да пачатку 90-х гадоў (ды ў значнай ступені і па сяньня) захавала кадры гісторыкаў з камуністычнай сьвядомасьцью. Усё гэта прывяло ў 80-х гадох XX ст. да крызісу ў беларускай гістарычнай навуцы.

Асновай для мэтадалёгіі многіх (але ня ўсіх) гісторыкаў стаўся тэзіс Сталіна, што пісаць гісторыю трэба так, «як належыць», выкідаючы зь яе праўдзівыя факты. Пры гэтым, што пісаць і як пісаць вызначалі высокія кіраўнікі ідэалягічнай службы, якія давалі сацыяльны заказ навуковым установвам і кафедрам гісторыі ўнівэрсытэтаў й інстыутутаў.

У 1948 годзе былі апублікаваныя «Тэзісы аб аснаўных пытаньнях гісторыі БСС». У «Тэзісах» шмат увагі ўдзялаялася барацьбе зь «беларускімі нацыяналістамі»

Павопдле гэтай маскоўка-імпэрскай канцэпцыі гісторыя Беларусі разглядалася скрозь прызму Расеі, а Беларусь - як правінцыя Расеі. Савецкія гісторыкі Беларусі стварылі ў 40-50 гадох савецкую канцэпцыю гісторыі Беларусі, шмат у чым заснаваную на меркаваньнях і міфах. Да якіх адносіліся: адмаўленьне тысячыгадовай дзяржаўнасьці беларускага народу, пачынаючы з Полацкага княства; разгляд Вялікага княства Літоўскага і Рускага як толькі дзяржавы літоўскіх фэадалаў, якой яна ў сапраўнасьці не была; спрадвечная, нейкая іманэнтная цяга і нават

барацьба беларускага народу за ўзьяднаньне з Маскоўскім Вялікім княствам, а потым і Расейскай імпэрыяй і г. д.

Аднак савецкая канцэпцыя гісторыі Беларусі не была арыгінальнай. Уважлівы разгляд расейскай дваранскай і дваранска-клерыкальнай гістарыяграфіі Паўночна-Заходняга краю (як называліся Беларусь і Літва ў афіцыйных дакумэнтах XIX ст.) дае магчымасьць прасачыць больш глыбокія вытокі пазьнейшага камуністычнага падыходу да гісторыі Беларусі.

Цікавасьць расейскай афіцыйнай гістарыяграфіі да гістопрыі Беларусі асабліва ўзрасла пасьля задушэньня паўстаньня 1863 г. у Беларусі пад кіраўніцрвам Кастуся Каліноўскага, і ў сувязі з палітыкай генэрал-губэрнатара краю Мураўёва-вешальніка. Расейскі гісторык М. О. Каяловіч даказваў, што Беларусь была «іздревне істінно русскім краем». І іншыя расейскія гісторыкі даказвалі, што аснаўным злом для Беларусі былі палякі, а беларускі нацыянальны рух - гэта звычайная «польская інтрыга». І наогул расейскія цары выратавалі беларусаў, далучыўшы Беларусь да Расейскай імпэрыі.

Погляды М.О. Каяловіча і П.Д. Бранцава былі выкарыстаныя савецкімі камуністычнымі гісторыкамі.

**Фальсіфікаваная гісторыя Беларусі, накіравана была на распаўсюджваньне нацыянальнага нігілізму, фактычна на <u>адмову ад сваёй гісторыі.</u>** Нацыянальныя дзеячы і героі не згадваліся, затое расейскія цары (Іван IV, Пётр I) былі ўзьнесены да ўзроўню амаль народных герояў. У Беларусі працьвітаў культ расейскага палкаводца А. В. Суварава, які быў адным з душыцеляў паўстаньня Касьцюшкі 1794 г. у Беларусі і Польшчы, а потым, як узнагароду, атрымаў Кобрынскі маёнтак з тысячамі прыгонных сялян.

Новы пэрыяд у асьвятленьні гісторыі Беларусі пачаўся ў другой палове 80-х гадоў, калі ў выніку радыкальных грамадзка-палітычных і эканамічных пераўтварэньняў, а потым і абвяшчэньня сувэрэнітэту Беларусі, частка гісторыкаў распрацавала нацыянальную канцэпцыю гісторыі Беларусі і большасьць гісторыкаў далучылася да яе. У першй палове 90-х гадоў у Белатусі ўжо па-новаму пачала распрацоўвацца гісторыя краіны.

Аднак з 1994 г., калі да ўлады пруйшоў рэжым А. Лукашэнкі, ува ўнутраной палітыцы сталі ўсё больш праяўляццха старыя бальшавіцкія мэтады кіраваньня дзяржавай і грамадзтвам. Зноў гістарычная навука стала падпадаць пад ціск з боку ўлады. Ізноў пачаўся праводзіцца курс накіраваны на разбурэньне й ліквідацыю беларускай нацыі, ліквідацыю беларускай мовы і нацыянальнай культуры.

У канцы 90-х гадоў XX ст. пачаўся выпуск падручнікаў па гісторыі Беларусі для школ і ўнівэрсытэтаў зь вяртаньнем да старых догмаў і шаблёнаў дарэвалюцыйнай і савецкай гістарыяграфіі, што адлюстроўвае афіцыйны погляд на гісторыю Беларуісі.

Цяпер сярод беларускіх гісторыкаў выявіўся падзел на дз.ьве аснаўныя групы: на тых, хто разглядае гісторыю Беларусі з нацыянальна-дзяржаўнага пункту гледжаньня і на тых, хто прытрымліваецца постсавецкага прарасейскага погляду, які фактычна адмаўляе самастойнасьць беларускага этнасу і яго нацыянальнае дзяржавы і разглядае гісторыю Беларусі як частку агульнай гісторыі Расеі. Другую групу гісторыкаў падтрымліваюць афіцыйныя структуры таталітарнага рэжыму, які ўсталяваўся ў Беларусі.

Ды ня гледзячы на дакананы над нашым народам стагодзьдзяні генацыд, этнацыд, лінгуацыд, мы жывем і змагаемся зь непахіснай верай у тое, што раней, ці пазьней здабудзем дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. І мы не забудзем пакутнікаў Беларусі, якія былі зьнішчаныя за тое, што былі сьветачамі для нашага-беларускага народу. Цьма-зло ня любіць сьвятка-дабра. Сяньняшняе памінальнае сьвяткаваньне мае на мэце аддаць пашану памяці пакутнікам Беларусі. Мае на мэце таксама, хоць троху адхіліць заслону з нашых важэй і памяці ды зірнуць на пакутныя бачыны нашае гісторыі - гісторыі Беларусі. Стагодзьдзямі бездзяржаўны, разсеены па ўсім сьвеце ізраэльскі народ ня толькі не загінуў, а трымаецца мацней за які іншы, бо ведае й як сьвятасьць шануе сваю гісторыю, запісаную ў Бібліі. Пра ахвяр генацыду ў Беларусі мы павінны ведаць і памятаць пра іх, каб разам зь іншымі народамі сьвету асудзіць генацыд, як варварскае злачынства супраць чалавецтыва.

Бэры - Таронта
1 красавіка, 2001

Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Стыаршыня